№ 98 (4145)

16 снежня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# Министром образования стал главный коммунист Беларуси

Самое сенсационное назначение вчерашнего дня: министром образования стал… Игорь Карпенко. Да-да, лидер белорусских коммунистов, торжественно открывавший памятник Ленину около проходной МТЗ 7 ноября этого года. Заместитель председателя Минского горисполкома, отвечающий за идеологию и призывавший наказывать за «искажение правды». Чиновник, который считает уместным, что в центре Минска есть улицы Ленина, Маркса, Энгельса, а увековечивание памяти Быкова и других классиков белорусской литературы не обязательно должно происходить посредством названия их именами улиц.


Фото sputnik.by

Что еще известно о господине-товарище Карпенко? Был ли он когда-нибудь связан с системой образования, как его предшественник на этом посту, доктор физико-математических наук, профессор Михаил Журавков?

Оказывается, был, но скорее опосредованно. Карпенко никогда не работал школьным учителем, не проявил себя и как преподаватель вуза. В его официальной биографии написано, что он окончил Минский государственный педагогический институт им. А.М.Горького по специальности «учитель истории, обществоведения и английского языка». Трудовую деятельность начал старшим пионервожатым (!) в средней школе. Служил в рядах Вооруженных сил. Работал секретарем комитета комсомола, начальником отдела, управления воспитательной работы, проректором по воспитательной и социальной работе Белорусского государственного педагогического университета им. Максима Танка. Был депутатом Палаты представителей третьего и четвертого созывов. В июле 2011 года назначен на должность заместителя председателя Мингорисполкома. Член КПСС с 1984 года. В октябре 2012 года избран первым секретарем ЦК Компартии Беларуси.

Александр Лукашенко, назначая Игоря Карпенко на должность министра образования, кажется, подшутил над всеми белорусами, заявив: *«Вас не надо убеждать в том, какое вообще у нас должно быть образование. Вы – человек прогрессивный. И вы прекрасно знаете недостатки нашего советского образования, непосредственно знаете лучшие школы страны и их недостатки. У вас огромный опыт работы в социальной сфере, прежде всего в образовании. Это главные факторы, которые склонили меня к тому, что именно Карпенко должен сегодня возглавить это направление».*

Профессор, член Общественного Болонского комитета **Владимир Дунаев** данное назначение называет «откатом назад».

– *Министры – это политические назначенцы. Те, кто у власти, назначают своих,* – высказывает свое мнение известный ученый. – *В ситуации, когда образование, прежде всего высшее, является чуть ли не единственной сферой, в которой идут согласованные с Европой реформы, когда новая редакция Кодекса об образовании подготовлена и находится на завершающей стадии перед подачей в Национальное собрание, смена главы ведомства может обозначать только одно – откат назад. Журавков пусть половинчато, избирательно, но реформы в образовании проводил. Теперь, когда министром назначен Карпенко, есть опасения, что реформы будут закончены, не начавшись. Оснований для того, чтобы ожидать от Карпенко реформаторской деятельности, нет. Скорее всего, это человек не просто консервативных, а совсем неевропейских, иногда ретроградских взглядов. И все это не внушает оптимизма.*

К СЛОВУ

## Михаил Журавков свою отставку не комментирует


Фото belapan.by

Новость о том, что он больше не министр, Михаил Журавков узнал, будучи за границей. Как выяснилось, экс-министр образования сейчас в отпуске.

– *Комментировать ничего не готов,* – сказал Михаил Анатольевич по телефону. – *Я очень далеко за границей, в отпуске.*

Министром образования Михаил Журавков работал два года – с конца декабря 2014-го. На эту должность он пришел с поста первого проректора Белорусского государственного университета. В отличие от Игоря Карпенко вся трудовая деятельность Журавкова связана с системой образования и в частности – с высшей школой. 18 лет Журавков работал в главном вузе страны – Белгосуниверситете. Он доктор физико-математических наук, профессор. В бытность Журавкова министром образования, в мае 2015 года, Беларусь наконец-то присоединилась к Болонскому процессу и вступила в Европейское пространство высшего образования.

По неофициальной информации, Михаил Журавков освобожден от должности по представлению генеральной прокуратуры в связи со скандалом вокруг питания воспитанников детских интернатных учреждений.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ГЛАС НАРОДА

## Конец оттепели…

Интернет-пространство очень бурно отреагировало на новость о назначении главы Компартии Беларуси Игоря Карпенко министром образования. Вот только несколько записей с форумов самых популярных сайтов страны:

*«Проста няма слоў. Вырашылі дабіць беларушчыну ў зародку!»*

*«Закончилась кратковременная оттепель. Теперь понятно, почему поставки нефти обещают восстановить».*

*«Какое этот человек имеет отношение к образованию, или у нас опять идеалы коммунизма будут внедряться уже и так в перевернутое сознание школьников и их учителей? Делаю прогноз: на этой должности новоиспеченный кадр долго не задержится, не более года и далее опять в одно из министерств, но уже первым замом».*

*«Чехарда министров продолжается, образование положат окончательно. Учителя в министры поставить нужно, неужели трудно это понять?»*

*«Белорусская трагедия: тут боятся умных людей, тут ценят лишь собачью преданность».*

*«Гляджу на навіну ўжо 10 хвілін і не магу падабраць аніводнага цэнзурнага слова. Напэўна, горш магло быць толькі прызначэнне на гэту пасаду Алы Бронь».*

КАДРЫ

# Учора прызначаны…

**Карпенка Ігар Васільевіч** – міністрам адукацыі Рэспублікі Беларусь;

**Малашка Валерый Анатольевіч** – міністрам працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь;

**Купчына Алена Мікалаеўна** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Аўстрыйскай Рэспубліцы, пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры міжнародных арганізацыях у Вене, Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Харватыя па сумяшчальніцтве;

**Курлыпа Аляксандр Міхайлавіч** – намеснікам старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь;

**Кухараў Уладзімір Яўгенавіч** – намеснікам старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь;

**Герасімаў Васіль Мікалаевіч** – памочнікам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – галоўным інспектарам па Брэсцкай вобласці;

**Ісачанка Анатоль Міхайлавіч** – памочнікам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – галоўным інспектарам па Мінскай вобласці;

**Падгурскі Іван Мікалаевіч** – першым намеснікам міністра ўнутраных спраў – начальнікам крымінальнай міліцыі;

**Гошын Уладзімір Анатольевіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Лаоскай Народна-Дэмакратычнай Рэспубліцы, Рэспубліцы Саюз М’янма і Каралеўстве Тайланд па сумяшчальніцтве;

**Куптэль Дзмітрый Георгіевіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Аб’яднанай Рэспубліцы Танзанія па сумяшчальніцтве;

**Латушка Павел Паўлавіч** – Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Княстве Манака па сумяшчальніцтве Пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры Сусветнай турысцкай арганізацыі па сумяшчальніцтве.

## Дадзена згода А.Р.Лукашэнкі на прызначэнне:

**Канюшкі Андрэя Васільевіча** – намеснікам старшыні Гомельскага аблвыканкама;

**Паўлечка Алены Фёдараўны** – старшынёй Мазырскага райвыканкама;

**Аслюка Ігара Святаслававіча** – старшынёй Чачэрскага райвыканкама;

**Краўчанкі Алега Іванавіча** – намеснікам міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь;

**Гаўрычэнкі Мікалая Іванавіча** – рэктарам установы адукацыі «Віцебская ордэна «Знак Пашаны» дзяржаўная акадэмія ветэрынарнай медыцыны»;

**Ярашэнкі Аляксандра Рыгоравіча** – кіраўніком дзяржаўнай установы «Адміністрацыя Кітайска-Беларускага індустрыяльнага парку «Індустрыяльны парк «Вялікі камень»;

**Сушчынскага Вадзіма Валянцінавіча** – пракурорам Віцебскай вобласці;

**Корзуна Віктара Канстанцінавіча** – пракурорам Гродзенскай вобласці;

**Старавойтава Мікалая Міхайлавіча** – намеснікам міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

**Карлюкевіча Аляксандра Мікалаевіча** – намеснікам міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь;

**Сухарукава Паўла Якаўлевіча** – дырэктарам – галоўным рэдактарам рэдакцыйна-выдавецкай установы «Выдавецкі дом «Звязда».

СУД!

## Яшчэ адзін…

*Былы намеснік старшыні Валожынскага райвыканкама асуджаны да 8 гадоў зняволення.*

Чыноўнік прызнаны вінаватым у перавышэнні ўлады альбо службовых паўнамоцтваў і ў атрыманні хабару.

Падчас расследавання крымінальнай справы было выяўлена 9 фактаў супрацьпраўнай дзейнасці. Сума шкоды склала каля 700 мільёнаў недэнамінаваных рублёў.

ЖАХ!

## У Наваполацку 36-гадовы мужчына выкінуўся з акна 8-га паверха

*Здарэнне адбылося некалькі дзён таму.*

Паводле слоў прадстаўніцы Следчага камітэта па Віцебскай вобласці Святланы Сахаравай, судова-медыцынская экспертыза высветліла, што ў крыві загінуўшага быў алкаголь – 3,8 праміле.

Вядома, што мужчына жыў з маці-пенсіянеркай. Ён вярнуўся з заробкаў у Расіі, дзе працаваў на будоўлі. На працу ў Наваполацку ён уладкавацца не мог, а трэба было плаціць аліменты на дзіця – з жонкай ён у разводзе. Пры гэтым у мужчыны былі добрыя ўмовы жыцця, ён меў легкавы аўтамабіль. Суседзі выказваюцца пра яго толькі станоўча. Раней жыхар Наваполацка некалькі разоў прыцягваўся да адказнасці па адміністрацыйных артыкулах.

У дзень трагедыі мужчына распіваў алкагольныя напоі, а калі маці пайшла ў краму, здзейсніў суіцыд. Следчыя высвятляюць усе абставіны здарэння, спрабуюць устанавіць матыў. Запіскі яны не знайшлі.

ЗАКУЛІССЕ

## Ніна ШЫДЛОЎСКАЯ: «Спадар Макей вельмі добра валодае беларускай мовай»

*Днямі прэс-служба Міністэрства замежных спраў паведаміла пра сустрэчу **Уладзіміра Макея** з прадстаўнікамі кіраўніцтва Міжнароднага грамадскага аб’яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" **Аленай Макоўскай і Нінай Шыдлоўскай.** Праўда, пра гэта паведамлялася вельмі каротка, літаральна ў некалькіх сказах. "Народная Воля" папрасіла **Ніну Шыдлоўскую** даць больш падрабязную інфармацыю.*

– Гэта была важная сустрэча ў рэчышчы пашырэння супрацоўніцва дзяржавы з беларусамі замежжа. МЗС курыруе гэтыя пытанні, і там існуе разуменне, што супрацоўніцтва з беларускім замежжам трэба пашыраць і яно павінна быць не кропкавым, а сістэмным. "Бацькаўшчына" мае 25 гадоў досведу працы з беларусамі замежжа, таму натуральна, што гэтыя моманты абмяркоўваліся з намі.

Падчас сустрэчы разглядалася яшчэ адно важнае пытанне – падрыхтоўка да 7-га З’езда беларусаў свету, які "Бацькаўшчына" склікае раз на чатыры гады. Мы ўжо распачалі падрыхтоўку да гэтага мерапрыемства і моцна зацікаўлены, каб, як і на двух папярэдніх з’ездах, было шырокае прадстаўніцтва супрацоўнікаў розных дзяржаўных органаў, у тым ліку міністэрстваў, якія непасрэдна кантактуюць з беларусамі замежжа па розных накірунках.

**– Хто быў ініцыятарам гэтай сустрэчы?**

– Вельмі прыемна, што ініцыятыва сыходзіла ад спадара Макея. Нам хочацца верыць, што кансультацыйны савет па справах беларускага замежжа, у які мы з Аленай Макоўскай запрошаны як кіраўнікі "Бацькаўшчыны", нарэшце атрымае больш практычны характар.

**– Цікава, на якой мове вы размаўлялі з Уладзімірам Макеем?**

– Вядома ж, па-беларуску! Спадар Макей вельмі добра валодае беларускай мовай. І колькі ў нас было папярэдніх сустрэч за мінулыя гады, ён заўсёды дэманстраваў багатую лексіку.

**Марына КОКТЫШ.**

БЛІЦ

*Уявіце сабе, што ваш гадавы заробак складае 240 тысяч долараў. Але, на жаль, у апошні час ваша праца стала прыносіць менш прыбыткаў прадпрыемству, і кіраўніцтва прапанавала перагледзець умовы кантракта, з тым каб крыху паменшыць ваш гадавы заробак. Падобная сітуацыя, як нам здаецца, склалася ў вядомага экс-футбаліста, сённяшняга галоўнага настаўніка ігракоў на зялёным полі. І…*

## НА ГАДАВЫ ЗАРОБАК, МЕНШЫ ЗА 240 ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ, ЭКС-ГАЛОЎНЫ ТРЭНЕР ЗБОРНАЙ БЕЛАРУСІ ПА ФУТБОЛЕ АЛЯКСАНДР ХАЦКЕВІЧ НЕ ЗГАДЗІЎСЯ. А ЦІ ПАГАДЗІЛІСЯ Б ВЫ?

**Алена КУСТУС,**
**прадпрымальніца рынку «ЦУМ» (Брэст):**

– Як кажуць, няма тых грабляў, што ад сябе грабуць, хаця, калі чую пра такія заробкі, то мне хочацца адначасова і плакаць, і смяяцца. Паколькі спортам я асабліва не цікаўлюся, то для мяне стала самым сапраўдным адкрыццём, што галоўны трэнер каманды, якая ніколі не дасягала высокіх вынікаў, атрымлівае такія вялізныя грошы – паўмільёна долараў за два гады! У мяне за ўсю маю прадпрымальніцкую дзейнасць такога тавараабароту не было. Я думала, што трэнеры вядучых каманд атрымліваюць прыкладна па тысячы долараў у месяц – гэта ўсё ж такі добрыя грошы для Беларусі. Але каб такія сумы!..

Трэнерам трэба ўвесці аплату працы па прадпрымальніцкім прынцыпе. Мы атрымліваем грошы, калі прадаём тавар. Так і ў футболе няхай зробяць. Паказаў вынік – атрымаў заробак.

**Леанід ПУТЫРСКІ,**
**анколаг-мамолаг, доктар медыцынскіх навук:**

– Калі б мне як урачу зменшылі гадавы заробак з 240 тысяч долараў, скажам, да 180 тысяч, то я абсалютна не спрачаўся б і працягваў працаваць. Але ж мы ведаем, што ў спорце зусім іншыя грошы, чым у медыцыне. І калі чалавек ведае, што ён у любы момант можа знайсці працу і за 250 тысяч долараў у год, то чаму б не? Матэрыяльнае пытанне для людзей таксама іграе не апошнюю ролю.

**Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ,**
**бард:**

– У гэтай сітуацыі ёсць два бакі медаля. Можна не пагадзіцца працаваць за меншую суму і ўсё роўна заставацца справядлівым. Бо ёсць юрыдычны кантракт, на які ў свой час пагадзіўся ваш працадаўца. І, калі па ўмовах падпісанага дакумента гэты кантракт не падлягае зменам ні пры якіх абставінах, то чаму хтосьці мае права змяншаць мой заробак? Але ёсць і іншы бок справы. Усе мы ведаем, якая зараз сітуацыя ў краіне, як сціснулася эканоміка, якія заробкі ў простых людзей… І вось тут ужо для чалавека, які жыве ў варунках іншых каштоўнасцяў, пытанне выбару: якое рашэнне прымаць?

**Іван ПЯСЕНКА,**
**выкладчык гісторыі гімназіі №3 г.Бабруйска:**

– Няма ніякага сэнсу разважаць пра нешта ў тэорыі, таму што на практыцы настаўнікі не маюць па 20 тысяч долараў у месяц і, відаць, ніколі столькі атрымліваць не будуць. Тысяча долараў у месяц – ужо было б за шчасце.

**Славамір АДАМОВІЧ,**
**паэт:**

– Калі б я рэальна зарабляў 240 тысяч долараў у год, то, ведаючы свой характар, мог бы і не пагадзіцца на меншую суму, нават калі б не выканаў нейкую задачу. Бо кантракт ёсць кантракт. Ты разлічваеш на адну суму, і раптам яна змяняецца. Таму цудоўна разумею таго ж трэнера. Калі маеш такія грошы, то думаеш зусім па-іншаму. Тут не трэба ні зайздросціць чалавеку, ні хаяць яго…

**Аляксандр АКУЛЕНКА,**
**супрацоўнік сталічнага ЖЭС-4:**

– Не пагадзіўся б, калі б дакладна ведаў, што працадаўца па законе абавязаны выплаціць мне гэтыя грошы. Тут ужо справа прынцыпу…

**Мікалай КАЖУРА,**
**рабочы Мінскага трактарнага завода (прозвішча па просьбе рэспандэнта зменена):**

– Наогул не разумею: за што плаціць трэнеру такія вялізныя грошы? Не дакараю Хацкевіча, сам гляджу футбол, але ці ёсць мазгі ў тых футбольных кіраўнікоў, якія даюць трэнерам за два гады працы паўмільёна долараў?! Я на заводзе ў апошні месяц атрымаў чыстымі каля 550 рублёў (прыкладна 275 долараў). Зараз нас са здзелкі на тарыфныя стаўкі перавялі, таму зарабляць сталі менш, а цэны з кожным днём растуць усё хутчэй. І што, гэта вялікія грошы за працу на вытворчасці завода-гіганта?

Адным словам, калі падлічыць, то за год працы зарабляю недзе 3 тысячы долараў, а каб атрымаць 300 тысяч долараў і хоць крыху наблізіцца да двухгадовага заробку футбольнага трэнера, мне неабходна было б працаваць аж 100 гадоў! Бачыце розніцу?!

А што тычыцца таго, як бы я паступіў, калі б у мяне нешта было… Ні завод, ні вы не дадзіце ж мне гэтыя 240 тысяч долараў, дык навошта мне забіваць галаву глупствам?

**Вольга УЛАСАВА,**
**галоўны трэнер зборнай Беларусі па скачках на батуце:**

– Я не магу адказаць на ваша пытанне, таму што пра такія сумы мы нават і не марым. Батут – гэта не футбол і не хакей. Калі працавала ў дзіцяча-спартыўнай школе, з улікам таго, што ў мяне было не менш як 15 спартсменаў, якія знаходзіліся ў рэзерве зборнай, заробак быў у межах 1000 рублёў (каля 500 долараў).

Зараз як галоўны трэнер нацыянальнай каманды я на стаўцы ў Міністэрстве спорту, аклад – прыкладна 450 рублёў. Але дадаткова атрымліваю за вынік, які мы паказалі на апошніх Гульнях у Бразіліі – Уладзіслаў Ганчароў стаў алімпійскім чэмпіёнам. Дарэчы, мой заробак залежыць толькі ад выніку. Няма яго – вось на гэтыя 450 рублёў і жыла б.

**Апытанне праводзіў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

